**ХАЧУ ЕЎРА!**
*Новая валюта завезена ў банкі рэгіёна*
2

**"ГРАЖДАНСКИЙ ФОРУМ":**
*дела и планы его пружанской организации*
5

**"BARDAK HOUSE"**
**поставил зал "на уши"**
*Приколы полесского рок-фестиваля "Крок"*
7




# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 18 — 24 студзеня 2002 г. № 3 (318)


# "НА МАІМ МЕСЦЫ МОЖА АКАЗАЦЦА ЛЮБЫ"


Аляксандр МІХАЛЕНКА.

**Вось яшчэ адна, так бы мовіць, тужлівая рыса быццея з'явілася ў нашых як быццам нязменных Івацэвічах: на гарадскім рынку ўжо каля месяца стаіць жанчына з дзіцём у інваліднай калясцы з захутанымі нагамі. Жабруюць.**

Што здарылася? Што прывяло гэтую жанчыну з хворым дзіцём сюды? Алена Іванаўна (так яна назвалася) расказала чытачам "Газеты для вас" наступнае:

— Сюды я прыязджаю з Баранавіч, дзе часова здымаю жыллё. Сама я ўкраінка, нарадзілася ў Мікалаеўскай вобласці, працавала і жыла там, пасля выязджала на работу ў Маскву. Але чатыры гады назад здарылася страшнае: мая дачка Ніна ўпала з дрэва, пашкодзіла пазваночнік. На аперацыю патрэбны сродкі: каля 5000 у. а. Ці дапамагаюць людзі? Крыху дапамагаюць. Людзі тут душэўныя, добрыя. Беларусы, увогуле, добрыя. І кіраўніцтва горада, рынку, міліцыя аднесліся да нашага з'ўлення тут па-людску. За дзень людзі даюць некалькі тысяч рублёў. Горкія гэта грошы...

**Аляксандр МІХАЛЕНКА.**

**Паважаныя чытачы! Няўжо усім мірам мы не зможам дапамагчы аднаму хвораму дзіцяці? З прапановамі звяртайцеся ў "Газету для вас"!**

# АГП мае намер змяніць наша жыццё,

## а яе баранавіцкая арганізацыя вучыцца перамагаць

**Аб'яднаная Грамадзянская партыя не збіраецца доўга аплакваць паразу аб'яднанай апазіцыі на мінулых прэзідэнцкіх выбарах. Адразу пасля падвядзення вынікаў выбарчай кампаніі АГП актыўна ўключылася ў працу і ставіць за мэту ў бліжэйшым часе прыйсці да ўлады і змяніць наша жыццё.**

Галоўныя мэты АГП: садзейнічанне стварэнню грамадзянскай супольнасці і прававой дзяржавы на падставе свабодных рынкавых адносін, прыярытэту правоў чалавека, агульначалавечых каштоўнасцяў і плюралізму па ўсіх напрамках развіцця грамадства.

Выбары прэзідэнта Беларусі паказалі негатоўнасць дэмакратычнай апазіцыі супрацьстаяць дзяржаўным структурам у барацьбе за выбаршчыка. У сувязі з чым Аб'яднаная Грамадзянская Партыя распачала падрыхтоўку кадраў да будучых мясцовых і парламенцкіх выбараў. Прадстаўнікі Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі былі накіраваны ў Расійскую Федэрацыю, ў г. Маскву. Яны з 6 па 17 снежня бралі ўдзел у піар-кампаніі па падтрымцы кандыдата ад Саюза Правых Сіл у дэпутаты ў маскоўскую гарадскую Думу. Ад Баранавіцкай арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі ў Маскву быў накіраваны Аляксандр Малаткоў.

Баранавіцкая гарадская арганізацыя Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі заснавана ў 1996 годзе. Актыўна працавала да вясны 1997 года. Ад гэтага часу з прычыны слабасці кіраўніка Баранавіцкай арганізацыі АГП Івана Савіцкага партыйная арганізацыя ў горадзе практычна спыніла сваё існаванне. Дзейнасць партыі аднавілася ў чэрвені 2001 года па ініцыятыве групы актывістаў грамадскага руху, якія ўвайшлі ў АГП. Гэтая група паставіла перад сабой задачу рэанімавання партыйнай арганізацыі, прыцягнення да працы усіх, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны і зрабіць яе ўплывовай ў нашым горадзе. У выніку праведзенай працы быў зняты з пасады намінальны кіраўнік і абрана новая Рада. Кіраўніком Баранавіцкай арганізацыі АГП стаў прадпрымальнік Сяргей Пятровіч Андрушчанка. Неўзабаве пасля праведзеных сходаў і актыўнай працы сярод жыхароў горада колькасны склад партыйнай арганізацыі стаў расці. На працягу пяці месяцаў у партыю прыйшло каля 20-ці чалавек. Баранавіцкая арганізацыя АГП актыўна ўключылася ў палітычнае жыццё краіны і горада. Па ініцыятыве Баранавіцкай арганізацыі АГП была створана Баранавіцкая рэгіянальная каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў "Свабодны выбар". Заснавальнікамі "Свабоднага выбару" сталі сябры трох партый — АГП, БНФ, БСДГ; прафсаюзаў — СПБ БЗАЛ, СПБ прадпрымальнікаў і грамадскіх арганізацыяў — БНФ "Адраджэнне", Праваабарончы цэнтр "Вясна", Задзіночанне Беларускіх Студэнтаў.

Незадаволенасць палітычным і эканамічным становішчам у краіне прывяла у Баранавіцкую арганізацыю АГП прадстаўнікоў самых розных сацыяльных плыняў і прафесіяў: ад юрыста да беспрацоўнага. Мы запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх людзей і арганізацыі, якія падзяляюць погляды АГП.

13 студзеня адбылося пасяджэнне актыву гарадской арганізацыі АГП, на якім была выпрацавана стратэгія развіцця арганізацыі, а менавіта — праца са школьнай моладдзю, студэнтамі — стварэнне гарадской маладзёжнай арганізацыі АГП; пашырэнне ўплыву партыі ў Баранавіцкім раёне і рэгіёне — гэта Івацэвічы, Ляхавічы, Лунінец, Ганцавічы і інш.

Баранавіцкая гарадская арганізацыя АГП жадае бачыць Беларусь квітнеючай, сапраўды незалежнай дэмакратычнай еўрапейскай краінай, дзе ўсе людзі будуць роўнымі перад законам і будуць мець магчымасць зарабіць грошы на дастойнае людскае жыццё, каб гадаваць і вучыць сваіх дзяцей.

Калі ўзнікнуць пытанні ці прапановы, можна звяртацца па тэлефону 41-79-51.

**Уладзімір ГУНДАР, намеснік старшыні Баранавіцкай арганізацыі АГП.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Семья Карпенко уехала в Германию

**"Я не вижу в этой стране будущего для своих детей", — сказала перед отъездом жена Геннадия Дмитриевича — Людмила Филипповна Карпенко.**

Семья Карпенко покинула Беларусь накануне рождественских праздников. В Германию уехала Людмила Филипповна, ее сын и семья дочери с полуторагодовалой Настенькой. Их провожали Ирина Красовская, Светлана Завадская и Татьяна Климова.

По некоторым данным, Карпенко собираются обратиться к немецким властям с просьбой о предоставлении им политического убежища.

Последний год Людмила Филипповна нигде не работала. "Психологическое давление оказывается на всю нашу семью", — не раз признавалась она.

Как известно, несколько лет назад политическое убежище в Германии получила семья экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко.

## Беларусь і Кітай пабудуюць у Мінску тэлевежу

**Паміж Беларуссю і Кітаем на ўрадавым узроўні вядуцца перамовы аб сумесным будаўніцтве ў Мінску тэлевізійнай вежы.**

Зараз ідуць перамовы аб форме ўдзелу кітайскага боку ў рэалізацыі гэтага праекта. У Кітаі ўжо створаны кансорцыум з прадпрыемстваў рознага профілю, які мог бы прыступіць да яго рэалізацыі, з беларускага боку створана рабочая група.

У 1998 годзе ў Беларусі ўжо праводзіўся тэндэр на будаўніцтва ў Мінску тэлевізійнай вежы. У ім брала ўдзел шанхайская кампанія "Тэлевежа "Жэмчуг Усходу". Аднак пазней беларускі бок адмовіўся ад рэалізацыі праекта. Зараз ён прапаноўвае два варыянты супрацоўніцтва: у форме, якая была вызначана тэндэрам 1998 года, — з роўным удзелам бакоў у праекце; або новы варыянт з будаўніцтвам і здачай аб'екта пад ключ кітайскім бокам.

## Переоценка основных средств

**Переоценке по состоянию на 1 января 2002 г. подлежат основные средства, незавершенное строительство и неустановленное оборудование.**

Переоценка производится ежегодно, но порядок ее осуществления может изменяться. Например, в прошлом году переоценивался также жилой фонд. В этом году, по инициативе Минэкономики, жилой фонд переоцениваться не будет.

Еще одно изменение касается организаций, расположенных в зонах отселения районов, пострадавших от аварии на Чернобыльской АЭС. Принадлежащие им основные средства, незавершенное строительство и неустановленное оборудование в этом году также не будут переоцениваться.

## Доплаты "чернобыльцам"

**На 33% повышены пособия и доплаты населению, пострадавшему от аварии на ЧАЭС.**

Новые размеры пособий и доплат утверждены постановлением Совмина № 1913 от 30 декабря прошлого года. Они должны применяться с 1 декабря 2001 года. Например, ежемесячное денежное пособие на каждого члена семьи в зоне проживания с периодическим радиационным контролем повышено с 833 до 1111 рублей, в зоне с правом на отселение с 1081 до 1441 рубля, а в зонах последующего и первоочередного отселения с 1664 до 2219 рублей.

С 1620 до 2160 рублей повышена ежемесячная доплата работникам, занятым в зоне проживания с периодическим радиационным контролем либо на территориях, не загрязненных радионуклидами, но при наличии на рабочем месте излучения более 50 микрорентген в час.

## "Чаўнакі" страцілі бізнес

**Колькасць жадаючых трапіць у Польшчу праз памежныя пераходы, што змешчаны ў Брэсцкай вобласці, з пачаткам новага года істотна паменшылася.**

Прычына такіх змен у рашэнні польскага Міністэрства фінансаў абмежаваць увоз у краіну акцызных тавараў — у першую чаргу алкаголю і тытуню. Ад 1 студзеня без мытнага афармлення дазваляецца правозіць не больш як паўлітра алкагольных напояў і пачак цыгарэт.

Прычым абмежаванні тычацца асобных груп грамадзян — гэта кіроўцы міжнароднага транспарту; асобы, што працуюць у памежнай зоне; жыхары памежных з Польшчай рэгіёнаў Беларусі. Для астатніх катэгорый грамадзян застаецца ранейшая норма — 1 літр алкаголю і 18 пачак цыгарэт. БеспераШкодна правозіць гэтую норму дазваляецца толькі адзін раз на месяц.

Прыняцце згаданага рашэння польскі бок тлумачыць забеспячэннем фінансавых інтарэсаў сваёй дзяржавы. Брэсцкія "чаўнакі" сцвярджаюць, што польскія мытнікі па пашпартах адсочваюць належнасць пасажыраў да таго ці іншага рэгіёна Беларусі. Таму для жыхароў Брэсцкай і Гродзенскай абласцей вандроўкі ў суседнюю краіну зрабіліся стратнымі — перавоз дазволенай нормы алкагольных і тытунёвых вырабаў не можа кампенсаваць нават выдаткі на праезд у Тэрэспаль.

**(Па матэрыялах рэспубліканскіх газет).**



# ХАЧУ ЕЎРА!

**"Добры дзень, "Газета для вас". Любыя навіны пачні слухаць — і амаль у кожным выпуску кажуць пра новую валюту, пра тое, што ў Германіі з той жа дойчмаркі зараз канфеці робяць.**

**А што з еўра? Гавораць, што не купіць гэтай валюты, што гэта амаль што той долар. Хоць за доларам, як я бачу, стаяць вялізныя чэргі..."**

**Віктар АСОБІК, г. Івацэвічы.**

**Сітуацыю каменціруе Ганна Іосіфаўна ЛЯШКОВА, кіраўнік Івацэвіцкага філіяла "Приорбанка".**

По сітуацыі з еўра скажу наступнае: гэтую валюту завезлі літаральна на днях, яе можна свабодна набыць. Курс на сённяшні дзень (на 15 студзеня 2002 года) 1445—1480 беларускіх рублёў за адзін еўра.

Тым не менш, вялікім попытам у нашых кліентаў карыстаецца долар. Пачынаючы з Новага года ў нас тут своеасаблівы, так бы мовіць, маўзалей: я маю на ўвазе чэргі. Хоць праблем з наяўным доларам ніякіх няма; мы рэгулярна завозім амерыканскую валюту ў вялікай колькасці.

**Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Канкурыруем з "Советской Белоруссией"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Жыхары Івацэвіцага раёна могуць ганарыцца сваёй адданасцю да сродкаў масавай інфармацыі. Тут, як і ў мінулыя гады, план падпіскі на перыядычныя выданні выконваецца пасляхова. У гэтым годзе ён нават перавыканан, праўда, за кошт забаўляльных і пазнавальных выданняў. Ды і гэта, мяркуем, нармальна: людзям надакучыла "есці лапшу" розных цэнтральных ды раённага маштабу палітычных казачнікаў пра эканамічную стабільнасць і шчаслівае, заможнае жыццё.

Сярод рэспубліканскіх, абласных і рэгіянальных выданняў лідзіруюць два выданні — газеты "Советская Белоруссия" і "Газета для вас". У іх адпаведна 2543 і 2076 падпісчыкаў. На трэцім месцы — "Народная газета" — 953 экзэмпляры Што датычыць абласных выданняў — газетаў "Заря" і "Вечерний Брест", то цікавасць да іх упала. Газета "Заря" мае ў раёне ўсяго 390 падпісчыкаў, а "Вечерний Брест" — 48.

**Аляксандр МІХАЛЕНКА.**

## Рождаемся, женимся и уходим навсегда

**ПРУЖАНЫ.** Местный ЗАГС работает в городе с 1918 года. За это время много работы было выполнено его сотрудниками — зарегистрировано неимоверное количество браков, заключенных местными жителями и жителями района. Десятки поколений детишек получили свидетельства о рождении. Родственники и друзья умерших тоже обращаются в ЗАГС, чтобы зарегистрировать смерть близкого человека.

Подводя итоги ушедшего года, нельзя не обратить внимание на статистические данные ЗАГСа. Начнем с самых ярких и приятных: в 2001 году в Пружанах и районе родилось 543 ребенка, а брачными узами было соединено 780 человек (390 свадеб)! Печальна цифра, возвещающая нам о том, что все же смертность превышает рождаемость в два раза — было похоронено 1063 человека.

**Юлия ТЕЛЬПУК.**

## Пазалаціце ручку

### ў магазіне "Універмаг"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** З 22 снежня 2001 года ў аддзеле "Галантарэя" магазіна "Універмаг" зноў пачалі прадавацца вырабы з золата. Продаж падобных вырабаў у райцэнтры спыніўся яшчэ падчас перабудовы.

**Ці ёсць попыт на вырабы з золата? Вось што расказала "Газеце для вас" загадчыца аддзела "Галантарэя" Наталля Міхайлаўна ШЭЛЕСТ:**

— Ёсць попыт. Амаль палову з першага прывозу мы рэалізавалі (з 77 адзінак прадалі 34). Заказалі яшчэ.

Бяруць і "абручалку", і завушніцы, і ланцужкі. Кошт? Ад 23 да 100 тысячаў рублёў. Ёсць і "пячатка" за 230 тысячаў; яе актыўна прымярае моладзь...

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Кроссовки "Белкельме"

### — на олимпиаде

**БЕРЕЗА.** Около 180 пар обуви предоставило совместное белорусско-испанское предприятие "Белкельме" из г. Белоозёрск спортсменам и тренерам Белорусской национальной сборной, которая вскоре отправится в Солт-Лейк-Сити (США) на XIX зимние Олимпийские игры. Хотя речь идёт не о специальной спортивной обуви, предназначенной для состязаний, а всего лишь о кроссовках на каждый день, изготовители вправе гордиться тем, что Национальный Олимпийский комитет Беларуси выбрал именно их марку. Не нужно объяснять, что за этим скрывается и признание качества обуви "БЕЛКЕЛЬМЕ", и престиж самой фирмы.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

## Яшчэ сто новых нумароў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Тэлефанізацыя, якая зараз шпарка ідзе па раёну, дайшла і да тых вёсак, дзе раней тэлефон быў вялікай раскошай.

Так, днямі 70 новых нумароў атрымалі жыхары вёскі з арыгінальнай назвай Магіліцы, 30 — жыхары Чамялоў. Як паведаміў галоўны інжынер Івацэвіцкага РУЭС Сяргей Фёдаравіч Снітко, тэлефоны з вялікім задавальненнем усталявалі і сельская моладзь, і пенсіянеры.

**Аляксандр ГОРБАЧ.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 16.01.2002 г. (у руб. за адзін кілаграм)**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3500—4500 | 3500—7000 | 3300—4500 | 3500—4500 | 3500—4000 | 3000—5000 |
| Сала салёнае | 3000—3500 | 3000—4000 | 3000—3500 | 3000—4000 | 3000—3500 | 3000—3500 |
| Алей (1 л) | 1400—1700 | 1350—1600 | 1600—1700 | 1500—1700 | 1500—1700 | 1500—1700 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1500 | 1400—1500 | 1500 | 1500 | 1400 | 1400 |
| Малако (3 л) | 1000 | 800—1000 | 900—1000 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Гранаты | 2600—3500 | 2500—3500 | 2500—3500 | 2500—3500 | 2500—3500 | 2500—3500 |
| Масла сметанк. | 2500—3000 | 2500—3000 | 3200 | 3000 | 2500—3000 | 2500—3000 |
| Бульба | 200 | 150—250 | 200 | — | — | 200 |
| Цыбуля | 500—550 | 500—800 | 500—550 | 500—550 | 500—550 | 500—550 |
| Капуста | 300 | 300—350 | 300—350 | — | — | 300—350 |
| Ананас (1 шт.) | 7000 | 7000—9000 | 8500—7000 | 7000—9000 | — | 7000—9000 |
| Памідоры | 3500 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | — | 3500 |
| Селядцы | 2200 | 1800—2000 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2100 |
| Ківі (1 шт) | 300—350 | 280—350 | 300—400 | 300—350 | 300—350 | — |
| Грэцкія арэхі | 2000—3000 | 2000—3000 | 2000—3000 | 2500—3000 | 2500—3000 | 2000—3000 |
| Яблыкі | 400—800 | 600—1600 | 450—700 | 450—800 | 450—800 | 500—800 |
| Маянэз (1п.) | 300—460 | 250—420 | 270—420 | 270—450 | 270—520 | 270—460 |
| Вінаград | 3000 | 2500—4000 | 2700—4000 | 2650—4000 | 2650—4000 | — |
| Мандарыны | 1700—2000 | 1600—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 | 1800—2000 |
| Часнок | 2200 | 2200 | 2100 | 2100 | 2100 | 2000 |
| Лімоны | 1900—2200 | 1700—2000 | 1600—1900 | 1600—1900 | 1600—1800 | 1600—1800 |
| Апельсіны | 1800—2000 | 1600—2000 | 1700—1800 | 1700—2000 | 1800—2000 | 1600—1800 |
| Бананы | 1700—1800 | 1400—1600 | 1600—1800 | 1700—1800 | 1700—1800 | 1600—1700 |
| Хурма | 2000—4500 | 2100—4000 | 2500—4300 | 2100—4000 | 2100—4000 | 2000—4000 |
| Грэчка | 500—550 | 500—540 | 550—600 | 600 | 550 | 550 |
| Макар. вырабы | 600—700 | 500—650 | 650—750 | 500—650 | 500—670 | 550—630 |
| Рыс | 550—600 | 500—600 | 600—850 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 | 560 |
| Проса | 380 | 330 | 400 | 400 | 380—400 | 400 |
| Цукар | 700 | 730—750 | 750 | 740 | 700—730 | 700 |
| Мёд | 4500—5000 | 4000—4500 | 4000 | 4600 | 4500 | 4000—4500 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1660 | 1700 | 1650 | 1680 | 1660 | 1700 | 1660 | 1700 | 1660 | 1700 | 1660 | 1700 |
| 1 еўра | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 |
| 1 рубель Расіі | 53 | 54 | 52 | 54 | 53 | 54 | 53 | 54 | 53 | 54 | 53 | 54 |

# "МЫ ЖЕ — УБОРЩИЦЫ, не та категория людей..."

**"Здравствуйте, главный редактор газеты Лидия Целуйко!**

**Никогда раньше не приходилось обращаться в газету, а вот в этом году подвернулся такой случай. Сложилась вот такая ситуация, о которой мне так хочется рассказать и поделиться, т. к. очень уж меня огорчили.**

**Начну по-порядку. Я проработала более четырёх лет в Добромысленском СДК уборщицей. Ну, как и полагается, регулярно платила профвзносы. Зарплата, конечно, наша мизерная, но каждому своё. И вот 29 ноября 2001 года я, в связи с переменой места жительства, увольняюсь. Уже с 3 декабря я вышла на другую работу. Председатель профкома мне объяснила, что новогодний подарок для ребёнка здесь я ещё не получу, но мне обязаны дать с прежнего места работы, т. к. я отработала там 11 месяцев. И вот я поехала в Ивацевичи и обратилась в методический центр за новогодним подарком. Ох, как поднялась на дыбы его начальница, с которой я разговаривала. Такое впечатление, что я пришла к ней в дом и требовала у неё Бог знает что. Как? Это я, уборщица, пришла тут и требую ещё новогодний подарок, ну и что, мол, из того, что сказали; а мы не должны. Я поразилась, что это говорит работник культуры. Я вот и говорю: неудивительно, что ни с одним праздником не слышали мы поздравления от "руководства свыше", не говоря о каких-нибудь путёвках для нас или детей наших. Мы же — уборщицы, не та категория людей. Я написала заявление на имя председателя профсоюзной организации работников культуры Г. В. Горелик с просьбой разобраться в этой ситуации и не оставить моего ребёнка без внимания. Я считаю, что в этом случае я права. Помогите разобраться, ведь существуют какие-то общие правила и положения профсоюзов.**

**С уважением — Тамара Владимировна ВОЙТИК.**
**Ивацевичский район."**

На письмо отвечает **Галина Владимировна ГОРЕЛИК, председатель райкома профсоюза работников культуры Ивацевичского райисполкома:**

— Пятого января Тамаре Владимировне Войтик был отправлен подарок на её новое место жительства в Барановичи.

Причём, с уведомлением. На сегодняшний день (11 января), думаю, она его получила.

**Подготовил Александр МИХАЛЕНКО.**

# Новы: стары більярд

**Яшчэ не так даўно більярд лічыўся ледзь не бандыцкай гульнёй, у кінастужках пра мафію злодзеі перад злачынствам заўсёды згуляюць партыю-другую. Зараз жа більярд набывае іншы аўтарытэт, нават стаў відам спорту. У нашай краіне таксама даволі працяглы час існуе Беларуская асацыяцыя аматараў гэтай гульні.**

**А ў нашым раёне па ініцыятыве А. Л. Рэчыца быў створаны гуртох аматараў більярду пры Лінаўскім СДК.**

— Мой бацька, вельмі апантаны гульнёй, арганізаваў клуб більярдыстаў у Слоніме, — расказвае Алег Леанідавіч. — Яго захапленне перадалося і мне.

Сваімі рукамі більярдысты зрабілі два сталы і кіі для гульні, потым купілі шары. Спачатку гурток ствараўся для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Але з цягам часу гульнёй "заразіліся" і бацькі, колькасць наведвальнікаў перавысіла тры дзесяткі чалавек.

— Спачатку я вучыў дзяцей гульне пад назвай "амерыканка". Але зараз у сусветным більярдзе прайшлі змяненні, і яна цяпер называецца простая піраміда "pool".

Як паведаміў трэнер, нядаўна ён атрымаў запрашэнне ад асацыяцыі більярднага спорту ў Беларусі на ўдзел у юнацкіх спаборніцтвах "Беларуская восень — 2002", што праходзілі ў Мінску 4-6 студзеня. Фундатарам паездкі пружанскіх більярдыстаў выступіў раённы аддзел адукацыі.

— Усяго прыехалі 26 чалавек, у асноўным з буйных гарадоў. Мы былі адзінымі з Брэсцкай вобласці. Другое месца заступілі Мінску, але ж у барацьбе за бронзавы медаль перамаглі віцебскага більярдыста. У выніку -- трэцяе месца і ганаровая грамата ад Міністэрства спорту і турызму.

Ёсць планы ў нашых більярдыстаў па ўдзел у красавіцкіх і кастрычніцкіх адборачных турах міжнародных спаборніцтваў.

Калі хто жадае таксама навучыцца гэтай гульні, можа запісацца на гуртох, заняткі якога праходзяць у аўторак і пятніцу з 18.00 да 19.30. У хуткім часе па ініцыятыве А. Л. Рэчыца і пры падтрымцы аддзела адукацыі райвыканкама падобны клуб мяркуецца стварыць і ў Пружанах.

**Крысціна КРУГЛЕВІЧ.**
**г. Пружаны.**

# Престольный праздник

15 января преосвященнейший Софроний, епископ Брестский и Кобринский, посетил Белоозёрский приход в честь преподобного Серафима Саровского в связи с престольным праздником. Была отслужена божественная литургия, сопровождавшаяся колокольным звоном, а затем совершён крестный ход вокруг храма.

Торжество прошло при большом стечении народа. По его окончании владыко Софроний в сопровождении генерального директора Брестэнерго В. М. Шешко, директора Берёзовской ГРЭС Г. К. Корня, директора Белэнергоремонта В. В. Ткачёва, а также других сотрудников станции посетил Берёзовскую ГРЭС и освятил пятый энергоблок, который даёт электроэнергию на Польшу.

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**г. Белоозёрск.**

# Безработица, и как с ней бороться

**Потерять работу сегодня может, практически, каждый. Никто из нас не застрахован от начинающейся волны сокращений. Что же делать в случае, если это произошло? Наиболее здравый и логичный путь — отправиться в центр занятости и попробовать трудоустроиться с его помощью.**

О том, насколько это возможно, рассказывает **директор Берёзовского центра занятости Александра Афанасьевна БРИЧ.**

— Сегодня в центре занятости, если взять наш район, стоит на учёте 571 безработный, в том числе в Белоозёрске — 176, в сельской местности — 85, в Берёзе — 310. Предприятия и организации, согласно действующему законодательству, обязаны предупредить рабочего или служащего, а также центр занятости за 2 месяца до планируемого сокращения. Только за 9 дней 2002 года к нам уже поступили заявления о готовящемся сокращении 10 человек, т.е. в среднем один человек в день.

Хотя потеря работы — это и неприятный момент в жизни любого человека, но всё-таки преодолимый. Как показывает практика нашего центра, большинству безработных удаётся снова трудоустроиться в течение первого года, остальным — на протяжении второго. И только единицы не могут найти работу по прошествии двух лет и более. Но тут уже, наверное, сказывается их истинное "желание" работать. Легче трудоустроиться высококвалифицированным работникам или специалистам, имеющим большой опыт работы.

Мы на самом деле можем помочь. За счёт центра занятости предлагаем переобучение на пользующиеся спросом специальности, причём оплачиваем не только обучение, но и проживание, а также выплачиваем стипендию. Сегодня мы предлагаем переобучение на довольно популярные профессии: каменщик-печник и столяр-станочник. Пользуются спросом и операторы газовых котельных. Сейчас уже готова группа из 11 человек, которая поедет в Брест учиться этой специальности. Из женских профессий сейчас популярны парикмахеры. Все женщины-парикмахеры, которые состояли у нас на учёте, уже трудоустроены. Так что, в случае сокращения или увольнения, не расстраивайтесь и приходите к нам. Мы вам поможем.

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**г. Берёза.**

# Загінулі дзеці

**Страшная трагедыя здарылася амаль апоўдні ў жылым доме 30-гадовай жыхаркі в. Власаўцы Івацэвіцкага раёна Ірыны Мікалаеўны Клютко.**

Прапаліўшы ў печы і справіўшы гаспадарку, недзе а палове дзесятай раніцы маладая жанчына пайшла на мясцовую ферму, дзе працуе даглядчыцай, пакінуўшы дзяцей дома адных. Дзеці — малодшанькі сын і дачушка — яшчэ спалі, а старэйшы — першакласнік — быў ужо ў школе. А вось ужо праз нейкіх дзве гадзіны над дахам дома зашугала полымя. Яго буйныя, пунцовыя языкі сквапна лізалі сцены, столь, падлогу,ваконныя рамы.

У выніку пажару драўляны дом амаль цалкам аказаўся знішчаным агнём разам з ўсёй маёмасцю, якая там знаходзілася. Пажарныя вынеслі з ахопленага полымем дома абгарэлыя целцы маленькіх Лілі, якой у красавіку споўнілася б 4 гады, і самага малодшанькага — 2-гадовага Арцёма.

Прычына трагедыі даволі банальная — у дзіцячых руках трапілі запалкі.

**Валерый МОЛАШ.**
**г. Івацэвічы.**

# Вспомнили-таки

Это был далёкий 1954 год. Барановичский парень Пётр Посадский служил в Южно-Уральском военном округе и был командиром танка. Довелось ему принимать участие в учениях, которые ставили своей целью обучение приближению войск к очагу ядерного взрыва. Так что довелось Петру увидеть настоящий ядерный "гриб" и поучаствовать в ликвидации последствий этого страшного явления.

После службы в армии вернулся Посадский в родной город и работал машинистом на железной дороге. Долгие 47 лет хранил он государственную тайну, нигде и никогда не рассказывая о том, где служил и что видел. А недавно по телевизору услышал рассказ о тех событиях и информацию о том, что их участникам полагаются льготы. Пётр Матвеевич обратился по указанному в передаче адресу и получил удостоверение льготника, приравненное к чернобыльскому.

**Иван НАЙДА.**
**г. Барановичи.**

# Боитесь ли вы потерять работу?

## Отвечают жители г. Берёза



**АНДРЕЙ КОШКИН.** Не боюсь. В основном, надеяться надо только на себя, а не на государство. В случае сокращения займусь своим делом. Работаю и сейчас на двух работах: своей и государственной. Приходится, конечно, крутиться, как белка, но на своей работе зарабатываю в два раза больше, чем на государственной.



**ИРИНА.** Нет. Я студентка, совмещаю работу с учёбой. Я не боюсь потерять работу, я человек верующий и знаю, что каждый день всё у меня будет нормально. Бог в моей жизни. Вся жизнь — сплошное завтра, ты не знаешь, что будет, но я считаю, что завтра всегда будет лучше, чем вчера.



**СВЕТЛАНА НИКОЛАЕВНА.** Конечно, боюсь. Бизнесом не занимаюсь, работа государственная. Единственный источник моих доходов, можно сказать. Мне не приходилось с этим сталкиваться, уже 25 лет работаю на одном месте. У меня есть огород, и в случае сокращения какое-то время смогу жить за счёт него.



**ГАЛИНА КАЗИМИРОВНА.** Не боюсь. Для организации всегда нужен главный бухгалтер, и мне до пенсии остаётся 2 года. Меня по закону не должны сокращать. Мне и раньше не приходилось попадать в такие ситуации, а если бы всё-таки пришлось, то думаю, я быстро смогла бы найти новую работу.



**БОРИС БРОНИСЛАВОВИЧ.** Нет, конечно. Хотя в наше время можно бояться всего, беспредела со стороны руководства и начальства, например. Думаю, найду силы побороться с теми, кто попытается меня уволить с работы. Раньше, иногда бывало, старались как-то и уволить, и подставить. Но я находил силы противостоять этому.



**НИКОЛАЙ ЛУКИЧ.** Не боюсь. Я её уже потерял 30 ноября. Сам уволился. Сейчас работаю на полставки на другой работе и к тому же нахожусь на пенсии. Меня никогда не сокращали и не увольняли. Если работа не нравилась, уходил сам, по собственному желанию. Я этого абсолютно не боюсь и всегда могу найти новую работу.

**В народ ходил Николай СИНКЕВИЧ (фото автора).**

 



# ТОЧНОСТЬ — ВЕЖЛИВОСТЬ КОРОЛЕЙ,

## а не придворных "летописцев"

**На постоянное чтение "Советской Белоруссии" — прилизанной, гладкой и главной госгазеты — времени не хватает. Жизнь и так кругом пёстрая, весёлая...**

**Но тут как-то взял подшивку. И — надо же! Такой ляп! На первой полосе, в последнем номере тысячелетия. И чей? Самого редактора.**

**Отметился, нечего сказать.**




"И ты, мой юный, мой печальный, уходишь прочь! Привет тебе, привет прощальный шлю в эту ночь", — патетически цитирует он в своей колонке стихи известного поэта, имя которому, по утверждению П. Якубовича, — Константин Бальмонт.

В общем-то, хорошие стихи выбрал Павел Изотович Якубович для своей колонки. Есть вкус! Рад за коллегу по журналистскому цеху. С одной оговоркой. Поэт Бальмонт никогда этих строк не писал. Их написал А. Блок.

Обескураженный, решил обратиться к коллегам-журналистам. "Чему тут удивляться? — заметил мне Геннадий Судник, опытный журналюга с Могилёвщины, который, по его словам, не один раз за одним столом с этим же Якубовичем сидел. — Я примерно знаю, как это всё делается. Выволакивается какая-нибудь "Дальневосточная правда" да и простосердечно смахивается с её полос понравившийся стишок, который, в свою очередь, пристроил там какой-нибудь умник. Это ты — фанат серебрянного века — заметил, тебе это режет слух. А этим писакам — что Константин Бальмонт, что протопоп Аввакум...

•

Действительно, режет слух. И колет глаз. Открываю брестскую областную "Зарю" за 27 сентября 2001 года, читаю глубокомысленные размышления над фактом Александра Иванова, который, оказывается, тоже любитель изящной словесности. Для пущей убедительности автор приводит цитату, как он считает, С. Я. Маршака, мол-де, "беда будет, если начнёт точать сапоги пирожник, а печь пироги сапожник". Да не говорил этих слов Маршак. Их в своё время написал дедушка Крылов, басни которого изучают и знают школьники. Получается, что ещё большая беда, когда такие вот газетчики начинают пользоваться наследием великих классиков. Просто трагедия!

Это чем-то напоминает тургеневского степного лекаря, силившегося понемецки изобразить свою начитанность: "Их... габэ... дэр кранк".

... И в низшем звене (речь идёт о приводных ремнях районного масштаба) стараются не отстать от века. О, здесь вообще рубахи-парни! Голой идейностью-то читателя не прошибёшь. Да вот беда: за идейностью — не острое перо, а ... топор дровосека, что-ли.

"Учитель! Перед именем твоим позволь смиренно преклонить колени!", — цитирует автор в "Івацэвіцкім веснiку", как он считает, Пушкина — и никому в редакции в голову не приходит усомниться, уточнить. Ведь это Некрасов, а не Пушкин.

Только смех могут вызывать с пионерским размахом организованные рапорты государственных СМИ. Особенно о положении дел в экономике. "Будзем з хлебам, будзем з хлебам!" — рапортовали в сентябре — октябре прошлого года эти "певуны". "Мы ўзялі вялікі хлеб", — патетически восклицает в "Івацэвіцкім веснiку" неизвестный (нет, не солдат) автор (статья без подписи); он, видите ли, на дожинки съездил.

Будем с хлебом? Точно? А я вот сомневаюсь. Цены на продукты питания, в том числе и на хлеб, абсолютно не соотносятся с тем, был урожай хороший али нет. Тем более, что продукты дорожают особенно стремительно. Три года назад (на 1 января 1999 года) за один доллар США можно было купить 16,2 буханки хлеба, теперь (в урожайный год, между прочим!) — 4,4.

"Мы ўзялі вялікі хлеб?" А может, наш "вялікі хлеб" нам гарантирует "вялізныя цэны" на этот же хлеб? И только-то.

Почему всё так? А всё потому, что для этих горе-певунов их идеологическая платформа — ничто иное, как прикрытие собственной бесталанности, бесхребетности, а журналистика для них не храм, а, скажем так, хлебное дерево, на котором они с аппетитом здорового бабуина уплетают плоды.

И не с великой русской культурой у этих дядей родственные корни. (Ах да! Они же ещё ярые сторонники русско-белорусской дружбы.) А с общим бескультурьем. И безответственностью. В том же "Івацэвіцкім веснiку" систематически публикуются поправки и уточнения своих всевозможных ляпсусов в опубликованных материалах. Эта "раёнка", между тем, нахваливает сама себя тоже систематически.

•

После окончания жеребьёвки ЧМ-2002 по футболу собрал всё газеты, посвящённые её результатам, засел всё в той же "читалке", погрузился в чтение. Тут о пристрастии речи нет — читаю хоть ту же "СБ", хоть "К топору" (праворадикальный листок РНЕ) — лишь бы о футболе писали.

Читаю в "Советской Белоруссии" следующие строки: "... В "группе смерти" может погибнуть каждый. Но наименьшая вероятность, что жертвой жребия станет Аргентина. Честолюбивая Нигерия наверняка обречена. Пожалуй, самая сильная по подбору футболистов африканская команда способна сыграть один выдающийся матч на турнире, но никак не 3 кряду. Так что второй выживший определится, скорее всего, в матче Англии и Швеции".

Прочитал это — и понять не могу. Да читал я это уже! Развернул прочитанные десять минут назад "Известия". Там написано (прошу читателя сверить): "... В "группе смерти" может погибнуть каждый. Но меньше всего вероятности, что жертвой жребия станет Аргентина — фаворит самой авторитетной в мире букмекерской конторы "Уильям Хилл". Нигерия обречена. Пожалуй, самая сильная по подбору футболистов африканская команда способна сыграть один выдающийся матч на турнире, но никак не три кряду. Так что второй выживший должен определиться в матче Англии и Швеции..."

Не могу понять: "СБ" редко читаю, но только в руки номер возьмёшь — вопрос за вопросом. Если мы в этом случае имеем дело с бесстыжим воровством, то это уже не невежество, которое мы имели ввиду, приводя цитаты Александра Блока, Николая Некрасова и дедушки Крылова.

Это похоже не плагиат.

•

Президентские выборы прошли, и как бы ни чувствовали себя защищёнными азарёнки, новиковы, чайки и мухи, свою преданность и раболепие к венценосцу выражающие оголтелым охаиванием деятелей оппозиции, а суды пошли. Вот и Юрий Азарёнок, автор политической передачи, вывернул наизнанку в суде тайные пружины собственного блудословия, стоившие ему и БТ кругленькую сумму. Её к удовлетворению своему получил Анатолий Лебедько. Вот ещё один "певун" по фамилии Новиков (он по понедельникам всё не лето вглядывался в мир на канале БТ) бегает от повесток в суд.

Как у нормального среднего налогоплательщика, содержащего и канал БТ, и всякие "СБ", "вестники", у автора сих строк возникает вопрос: кто, наконец, даст нормальную оценку работе тех СМИ, которые живут за наш счёт. Мы все любим говорить, что у нас плохая медицина, есть вопросы к милиции, учителям... А каковы наши СМИ, которые мы все вскормили?

О том, что менталитет среднего белоруса не допускает подобных мыслей, мы все знаем. Это в США, Германии, Италии налогоплательщик может прямо в глаза сказать медику, полицейскому, госчиновнику (и, сказал бы, таким горе-журналистам): "Ты живёшь за мой счёт! Я содержу тебя! Ты работаешь на меня и на мои деньги! Я плачу тебе не для того, чтобы ты в моей газете гнал галиматью да "вешал лапшу на уши".

Но мы молчим. Но кто-то первым должен, наконец, спросить: доколе? Доколе мы, налогоплательщики, будем содержать невежество и посредственность. Доколе политическая "паслухмянасць" будет считаться главным достоинством тех дядей, для которых понятие "серебрянный век" — это время, когда можно, подпевая руководству, карман набивать?

**Александр ГОРБАЧ.**
**г. Ивацевичи.**

# Якім выданням вы найбольш давяраеце?

## Адказваюць жыхары горада Бяроза



**ВІКТАР ПАЎЛАВІЧ:** Даваряю і люблю чытаць "Комсомольскую правду", "Семь дней", "Аргументы и факты". Чытаю многія выданні, але перавагу аддаю вышэйзгаданым.



**ЯЎГЕННЯ:** "Вечерний Брест", "Труд"... У гэтых выданнях можна знайсці шмат чаго карыснага. Чаму аддаю перавагу? Усяму патроху: палітыцы, эканоміцы, маладзёжным праблемам.



**ВІКТАР ФЕДАРАВІЧ:** "Вечерний Брест", "Заря", "Семь дней". Канешне, не танна выпісваць усе гэтыя газеты, але інфармацыя — рэч важная і патрэбная; трэба чытаць.



**ДЗІМА, ВАЛЯ:** ... Заўжды, калі прыязджаем да бабулі, з задавальненнем чытаем "Газету для вас" — яна ж выпісвае. Акрамя гэтага любім чытаць "Комсомольскую правду", "Моя семья".



**НАТАЛЛЯ МІКАЛАЕЎНА:** Найбольш даваряю дзяржаўным газетам — "Советская Белоруссия", "Маяк". Іх матэрыялы адпавядаюць маім запатрабаванням і прыхільнасцям...



**СВЯТЛАНА СЦЯПАНАЎНА:** "Газеце для вас" даваряю, тым больш, што тут сустракаюцца матэрыялы, якія друкуюць мае добрыя знаёмыя. Чытаю таксама "СБ", "комсомолку"...

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Андрэй МАЦУКЕВІЧ (фота).*

 



Трэці сектар

# ВОЛЬНЫ РЭГІЁН



## Евгений Валюкевич, председатель Пружанской городской организации "Гражданский форум":

# ВСЕ ВИДИМ, СЛЫШИМ И ДЕЙСТВУЕМ

**Конечно же, прав тот, кто считает, что захолустье отличается от "продвинутости" тем, чем там и здесь занимается молодёжь, насколько она активна или пассивна.**

**Знакомьтесь: Евгений ВАЛЮКЕВИЧ, председатель Пружанской городской организации "Гражданский форум", лидер политически активной части пружанской молодёжи, лидер и организатор. Надеюсь, читателям "Газеты для вас" будет интересно узнать то, чем занимается, что волнует, чем живёт Пружанская городская организация, которой Евгений руководит.**

**— Евгений, вы уверены, что явление вашей организации народу было востребовано временем?**

— Ещё бы! "Гражданский форум" объединяет несколько тысяч политически активных молодых людей, которым через свою организацию есть что сказать стране и миру. Наша организация существует не год и не два, ей скоро будет шесть лет, а, значит, мы можем не только, образно говоря, смотреть или ходить, но и действовать; знаем свои силы.

**— Действия городской организации — это...**

— Это, прежде всего, возможность определить круг тех людей, кто может стать под наши знамёна, отделить, так сказать, зёрна от плевел, а потом помогать там и тому, где и кому мы можем помочь.

**— А если конкретно?**

— Вот вам типичный случай. Всем в городе хорошо было известно, что основная часть молодёжи, которая проживает в общежитии Пружанского сельскохозяйственного техникума, ограничена в возможности встречаться, приглашать в гости к себе после 22.00 (есть такой порядок в общежитиях). Проживающих в общежитии, их гостей это возмущало, тем более, что в республике разработаны новые правила, согласно которым разрешается принимать гостей до 23.00.

Мы вышли на директора сельскохозяйственного техникума Владимира Михайловича Тура. Вопрос был решён положительно; разрозненные желания каждого жильца, как видите, решила наша организация.

Наша городская организация также вышла на руководство Пружанского районного узла электросвязи с просьбой помочь установить в общежитии № 4 вышеупомянутого техникума междугородний телефон-автомат (молодёжь не могла позвонить в Берёзу, Ивацевичи, Кобрин и т. д.). Теперь вопрос решён.

**— Ваши действия, разумеется, координируются с вашим руководством...**

— Да, конечно. И одна из самых звучных общереспубликанских акций "Гражданского форума" — это сбор подписей за отмену персонального распределения выпускников учреждений, обеспечивающих получение профессионально-технического, среднего специального и высшего образования. За то, чтобы распределение выпускников осуществлялось на добровольной основе, "Гражданский форум" собрал около 30000 подписей.

Планируемые изменения в законопроект включены в повестку дня и будут рассматриваться Палатой представителей Национального собрания РБ...

**— Стоп! Немаловажный момент, волнующий многих, кто интересуется политикой, — это сотрудничество или несотрудничество с властью, которую, в свою очередь, многие считают то легитимной, то нелегитимной...**

— Мы готовы сотрудничать, встречаться, наводить мосты... С кем? С кем угодно. На взгляд нашего лидера, депутата Национального собрания РБ Владимира Новосяда, конструктивная оппозиция — это когда не становятся в позу обиженных, а действуют, заявляют о себе в любой сложившейся ситуации.

Проще всего выборы бойкотировать, гораздо труднее их выиграть. Кстати сказать, наш лидер в упорной борьбе выиграл в Минске; согласитесь, что далеко не каждый политик осмелится именно в Минске выставить себя и далеко не каждый может выиграть.

**— Ваша деятельность не ограничивается рамками нашей республики?**

— Именно так. Благодаря тому, что мы везде заявляем о себе, наша организация служит, образно говоря, мостом между любыми движениями и партиями. Недавно представители нашей организации выезжали в Данию для наблюдения за выборами. Было официальное приглашение именно датской стороны. Со всего бывшего Советского Союза делегации были только из Эстонии и делегация "Гражданского форума". За две недели мы сделали для того, чтобы познакомить датчан с Беларусью столько, сколько наш МИД, наверное, не сделал за десять лет независимости (посольства Республики Беларусь в Дании, к сожалению, нет).

В следующем месяце ждём датчан к нам в Беларусь. Пройдёт целая серия ответных встреч.

**— Отвлечёмся от темы на несколько слов. Выборы в Дании — это...**

— Это во многом похоже на то, что мы наблюдаем у нас, но многое — не похоже. Выборы, кстати, там проходят в будний день. Существует и досрочное голосование и голосование по почте. С другой стороны, в Дании всё очень спокойно, СМИ не бросаются в истерику, как у нас, на избирательных участках нет даже полицейских, хотя активность граждан весьма высокая.

**— С какой стороны вы чаще всего встречаете непонимание?**

— Как ни грустно, но именно провинция отличается своей непробиваемостью. Как-то года дватри назад, когда мы в Пружанах взялись за образование молодёжного антифашистского центра, в соседнем райцентре Ивацевичи в газете "Івацэвіцкі веснік" появилась такая публикация, после которой не знаешь, что и думать: то ли эти люди не живут среди нас, а двадцать лет в земле пролежали, что ли, то ли они, вообще, так сказать, психически неадекватны.

Что написано в той информации? Что мы "гатовы за долары прадаць сваю краіну", что мы "дурым чэсных людзей". Автор в своих фантазиях метнулся в 1941 год и утверждает, что если бы война случилась, то большинство из наших рядов пошло бы на службу "сапраўдным фашыстам, пайшла б у паліцэйскія ці яшчэ куды і страляла б у ні ў чым не павінных людзей. Як гэта было ў гады фашысцкай навалы на нашу родную Беларусь".

Поначалу у большинства из нас возникло желание обратиться в суд и вытащить на свет божий этого неизвестного автора (статья без подписи). Даже письмо послали в эту газетку. Оттуда, разумеется, ни гу-гу. Потом передумали. Даже судебные разбирательства с такими заскорузлыми людьми могут скомпрометировать нас. Пусть лучше знающие люди почитают и посмеются над тем, у кого, так сказать, 20 лет назад пластинку заело...

**— Что в планах, Евгений?**

— В планах — работа по образованию молодёжного парламента, участие в выборах. Мы стремимся действовать, жить, участвовать и побеждать.

**— Успехов вам, Евгений! Желаю, чтобы сбылись все ваши начинания.**

— Успехов и вашей интересной газете.

**Подготовил Александр ГОРБАЧ.**




**Активисты "Гражданского форума" во время съезда.**

# Что означает символ

## "Гражданского форума"



Символ флага: красный конёк на белом фоне.

Общий символ: морской конёк.

Почему морской конёк? Морской конёк хранит своих детей в сумке на животе. И при малейшей опасности они укрываются в ней. Морской конёк символизирует организацию в целом, детёныши — членов организации. Количество детёнышей у морского конька достигает 14 тысяч и каждый из них находит защиту. Точно так же, все члены нашей организации, вне зависимости от количества, и каждый член организации всегда найдут поддержку, понимание и конкретную помощь.

При наблюдении у морского конька глаза вращаются по отдельности. Это позволяет ему видеть всё, что происходит вокруг, и вовремя заметить опасность. Так и организация: всё видит, слышит и действует.

При том, что морской конёк не имеет ни зубов, ни желудка, ни рёбер, он является существом хищным. Так и организация — не является радикальной, но придерживается строгих принципов.

Из чёрного и серого морской конёк может за несколько секунд стать оранжевым, жёлтым или фиолетовым. Это помогает ему спасаться от хищников.

Морской конёк свободно перемещается по морским просторам, для него не существует преград и ограничений. Это символизирует либеральные идеи организации.

# Наши дела

**Апрель 1996 г.** Проведён пеший марш из зоны, пострадавшей от аварии на ЧАЭС.

**30 мая 1997 г.** Состоялся благотворительный рок-концерт "Мексиканское лето".

**Июнь-июль 1997 г.** Пикетирование военкоматов в г. Минске за введение альтернативной службы.

**Июль 1997 г.** Акция "Мая краіна — Беларусь" — заплыв на плотах по реке Днепр через три области.

**Осень 1997 г.** Активное участие в сборе подписей под "Хартией-97".

**1998 г.** Вступление в Союз Молодых Консерваторов Европы и в Международный Демократический Союз Молодежи.

**Апрель 1999 г.** Серия пикетов против низких стипендий белорусских студентов.

**Апрель 2000 г.** Митинг «Чарнобыльскі шлях».

**Лето- осень 2000 г.** Активное участие в избирательной кампании по выборам депутатов в Палату представителей Национального Собрания Республики Беларусь. А кроме этого — круглые столы, семинары, конференции.



# КАРАЛЕВА ЖЫВОГА СЛОВА і пакутлівай праўды

**(Заканчэнне. Пачатак у № 46, 47, 48, 49, 50, 51 за 2001 г., № 1, 2 за 2002 г.).**

## VI. АЖЭШКА І ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

**1.**

У наш час кола чытачоў, у тым ліку і твораў Элізы Ажэшкі, значна расшырылася. Што ж тычыцца апавяданняў, аповесцей і раманаў Элізы Ажэшкі, то нашы беларускія чытачы (і не толькі яны!) лічаць, што гэта творы пра беларусаў і Беларусь. На самой справе, так яно і ёсць. Ажэшка ўсё сваё жыццё жыла ў Беларусі і ніколі — у Польшчы. Таму памятаем яе, пісьменніцу, як дачку беларускага народа.

Творчая спадчына Элізы Ажэшкі даволі багатая. Яна пакінула нашчадкам 60 тамоў твораў, у тым ліку 32 раманы, дзесяць тамоў пісьмаў.

Шмат разоў перавыдаваліся творы Ажэшкі ў розных краінах свету. У нашай краіне ў 1975 годзе ў перакладзе на беларускую мову выйшла кніга "Выбранае". А ў "Беларускім кнігазборы" пабачыў свет аднатомнік пісьменніцы.

Той-сёй сёння напамінае, што пісала Эліза Ажэшка, маўляў, толькі на польскай мове. Вядома, гэта не праўда. Гэтай мове яе навучылі з дзяцінства і не цуралася яе да канца дзён сваіх, хаця ведала яшчэ рускую, беларускую і французскую.

Жывучы на Беларусі, пісьменніца пакінула тут не толькі творчы след, а проста чалавечы, жыццёвы. Яе і сёння любяць і памятаюць, берагуць тыя мясціны, якія звязаны з яе жыццём і творчасцю.

**2.**

У Людвінове, што на Драгічыншчыне, Эліза Ажэшка пражыла толькі шэсць гадоў. Пасдзеі гэтага часу не толькі засталіся ў яе памяці, але зрабілі з яе новага чалавека — яна стала пісьменніцай і ніколі не забывала свае палескія універсітэты.

Звыш стагоддзя мінула з тых памятных гадоў. Як жа на Палессі ўшаноўваюць знакамітую пісьменніцу?

У самім Людвінове ёсць вуліца, якая носіць імя Элізы Ажэшкі. У мясцовым клубе маецца стэнд, што расказвае аб жыцці і творчасці пісьменніцы. Вось, бадай, тут і ўсё.

У вёсцы засталася частка парка Ажэшкаў, каштан з алеі, па якой любіла хадзіць Эліза. З будынкаў захаваліся толькі два: былая канюшня (зараз там калгасны склад) і сталовая (там нейкі амбар). Пра былую сажалку напамінае невялікае паглыбленне, дзе ёсць крыху вады. Старонні чалавек без дапамогі вяскоўцаў нічога не знайшоў бы, што б гаварыла аб тым, што тут жыла некалі Эліза Ажэшка. У Закозелі захавалася старая капліца, у якой Эліза хавала мясцовага камандзіра паўстанцаў Траўгута.

Расказвае жыхарка Людвінова Еўдакія Пятроўна Прыбыш:

— Я жыву тут звыш 45 гадоў. Наша хата стаіць на вуліцы імя Ажэшкі. Хоць у мяне і невялікая грамата, але люблю чытаць раманы пісьменніцы. Ёсць невялікая бібліятэка ў мяне. Свёкар мой многа расказваў пра Ажэшку. Дый наша хата стаіць на іхняй зямлі.

**3.**

Да размовы далучаецца Леанід Фёдаравіч Прыбыш, муж Еўдакіі Пятроўны:

— Мой бацька не раз успамінаў пра маёнтак Ажэшкаў, пра вялікі ўходжаны парк і сад, пра тое, як Эліза хавала кіраўніка мясцовага атрада паўстанцаў, палкоўніка ў адстаўцы Рамуальда Траўгута. Яшчэ бацька казаў пра маладую жонку Пятра Ажэшкі. Эліза была добрая і не толькі спачувала сялянам, але і дапамагала ім. I школку яна тут адкрыла для сялянскіх дзяцей. Сама Эліза ў час паўстання лячыла параненых, дапамагала ўсім, чым магла. Сваякоў мужа Пятра і многіх вяскоўцаў арыштавалі і саслалі ў Сібір. А вось Элізу не зачапілі. Мой бацька і сам здзіўляўся: чаму?

А зусім нядаўна адбылася падзея, якая прымусіла зноў успомніць пра Ажэшкаў. Праўнукі Фларыяна Ажэшкі — Віктар з жонкай Ірэнай прыехалі з Польшчы (жывуць яны ў мястэчку Кашубы бліз Гданьска) і наведалі зямлю сваіх продкаў — вёскі Людвінова і Заказель.

— Мой бацька памёр нядаўна, у 1999 годзе, — паведаміў Віктар Ажэшка. — Ён многа расказваў пра ўвесь наш род і пра мясціны, дзе жылі нашы продкі. Былі мы ў Людвінове на вуліцы, названай імем Элізы Ажэшкі. Для нас гэта быў прыемны сюрпрыз...

Мэта прыезду новага пакалення Ажэшкаў на Палессе — здзейсніць сваю мару і напісаць праўдзівую хроніку свайго роду.

**4.**

Цікавяцца жыццём і творчасцю Элізы Ажэшкі супрацоўнікі Драгічынскай цэнтральнай бібліятэкі. Шмат ужо зроблена. Сабрана многа матэрыялаў аб жыцці і творчасці славутай пісьменніцы-дэмакраткі. У гэтай рабоце шмат дапамаглі работнікі Гродзенскага краязнаўчага музея і Гродзенскай юнацкай бібліятэкі, музея імя Элізы Ажэшкі. Драгічынцы ўдзячны таксама Адаму Мальдзісу, празаіку, літаратурнаму крытыку.

Пабываў у Драгічыне і Гжэгожа Міхайлоўскі, былы сакратар рэдкалегіі "Падляскага культурнага штоквартальніка", таленавітага бібліёграфа, які даслаў бібліятэцы шмат кніг на польскай мове, газетных артыкулаў і фотаздымкаў Элізы Ажэшкі. Дарэчы, ён ужо неаднаразова наведваў Драгічынскую бібліятэку.

Гжэгожа Міхайлоўскі падтрымаў намер бібліятэчных работнікаў ствараць экспазіцыю, прысвечаную жыццю і дзейнасці Элізы Ажэшкі іменна ў Людвінове, дзе яна пражыла шэсць гадоў.

У чэрвені мінулага года ў цэнтральнай бібліятэцы адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя 160-годдзю выдатнай пісьменніцы.

Выступала перад наведвальнікамі літаратурна-паэтычная група "Натхненне". Яна паказала кампазіцыю "Яна любіла люд мясцовы".

На працягу 12 гадоў пры цэнтральнай бібліятэцы дзейнічае тэатр кнігі. Яго пастаноўкі карыстаюцца вялікім поспехам, асабліва па творах Элізы Ажэшкі.

Багаты матэрыял пра жыццё і дзейнасць Элізы Ажэшкі сабраны ў Драгічынскай цэнтральнай бібліятэцы. Тут пастаянна дзейнічае выстава твораў пісьменніцы. Ёсць усе падставы для таго, каб прысвоіць раённай бібліятэцы імя Элізы Ажэшкі. Гэта добра разумеюць у Драгічыне. Таму і звярнуліся ў аблвыканкам з матываванай просьбай аб прысваенні іхняй бібліятэцы імя славутай пісьменніцы. Але там адмовілі. Прычына адна: Ажэшка, маўляў, польская пісьменніца, а ў нас сваіх хапае. Вось як многа ведаюць пра Элізу Ажэшку абласныя чыноўнікі! Сорам каму-небудзь сказаць — не паверыць. Але кіраўнікі Драгічынскай цэнтральнай бібліятэкі Зінаіда Эдуардаўна Жыткавіч і Зоя Барысаўна Гедзька не адчайваюцца: надыдзе час і чыноўнікі ад культуры выправяць сваю ж памылку і з веданнем справы ацэняць працу драгічынскіх бібліятэчных работнікаў.

**5.**

Большую частку свайго творчага жыцця (а гэта 40 гадоў) Эліза Ажэшка правяла ў Гродне. Тут жа набыла сусветную вядомасць, тут напісала большасць сваіх твораў, тут прыйшло і прызнанне. Жывучы сярод беларусаў, пісьменніца і пісала пра іх жыццё, часта ўзнімала жаночае пытанне, асвятляла праблему нацыянальнага раўнапраўя, паказала разарэнне шляхты ва ўмовах развіцця капіталізма, яе маральнае разлажэнне.

У Онгарадзе (так з-за царскай цэнзуры называла ў сваіх творах Гродна Эліза Ажэшка) пісьменніцу ведалі ўсе. Ведаюць яе і нашчадкі, аддаюць ёй дань сваёй павагі і, канешне, берагуць памяць пра сваю зямлячку.

Кожны наведвальнік Гродна абавязкова пабывае на вуліцы, названай імем Элізы Ажэшкі. Тут ёсць помнік пісьменніцы, на высокім п'едэстале яе бюст, на твары ўсмешка, як быццам яе аглядае наваколле і абавязкова кідае позірк на Нёман, дзе прайшло яе дзяцінства.

У доме, дзе жыла пісьменніца, размешчаны музей, дзе сабрана шмат экспанатаў, а таксама рэчаў, якімі карысталася Эліза Ажэшка, і, вядома, яе творы на розных мовах свету, шмат тут ілюстрацый.

Круглы год наведваюць дом Элізы Ажэшкі людзі. Акрамя жыхароў Гродна, прыходзяць сюды госці з Масквы, Ленінграда, Мінска, Вільнюса, з іншых гарадоў. Вялікую зацікаўленасць да ўсяго, што звязана з імем пісьменніцы, праяўляюць жыхары Польшчы. Яны складаюць значную частку наведвальнікаў.

**6.**

Яшчэ адно памятнае месца наведваюць прыхільнікі творчасці Элізы Ажэшкі. Гэта вёска Флер'янова Ляхавіцкага раёна. Пра наведванне пісьменніцай гэтага маёнтка расказана вышэй. Што ж засталося ў тым маёнтку Тадэвуша Бохвіца ад таго часу?

Трэба сказаць, што многае. Але самае галоўнае, бадай, у тым, што тут створаны "Флер'яноўскі палаца-паркавы ансамбль XIX стагоддзя", які ахоўваецца дзяржавай.

І сёння стаіць у вёсцы старасвецкі будынак, у якім у летні час жыла пісьменніца. Шырока раскінуў разгалістую крону дуб, які пасадзіла Эліза Ажэшка восенню 1909 года.

Захавалася частка парка і саду, ліпавая алея, па якой любіла прагульвацца пісьменніца са сваімі сябрамі.

Адразу за паркам і садам працякае рэчка Вядзьмарка, па берагах якой сябры Элізы любілі часамі сядзець з вудамі. У межах Флер'янова рэчка зараз абмялела і знаходзіцца ў запушчаным стане.

Да нядаўняга часу ў старасвецкім будынку размяшчалася праўленне мясцовага калгаса імя Ламаносава. Зараз яно знаходзіцца ў новым памяшканні, а пакінутае засялілі людзьмі.

**7.**

Трэба аддаць належнае мясцовым кіраўнікам Навасёлкаўскага сельсавета і калгаса імя Ламаносава А. І. Зубіку і А. П. Булькевічу. Гэта яны паклапаціліся, каб навесці парадак ля былога маёнтка, арганізавалі людзей. Пастаўлены памятны знак, які нагадвае аб гістарычным месцы. Зроблена агароджа і надпіс на камні ля дуба, пасаджанага Элізай Ажэшка. Старасвецкі будынак таксама агароджаны. Хацелася б, каб увесь палаца-паркавы ансамбль быў агароджаны і добраўпарадкаваны і не напамінаў, як зараз, прахадны двор, дзе, хто хоча, там пракладвае сабе сцежкі. Але гэта, відаць, справа недалёкай будучыні. Так мне падалося з размовы са старшынёй Навасёлкаўскага сельсавета Аляксеем Іосіфавічам Зубікам.

Летась у жніўні на базе Брэсцкай вобласці праходзіла міжнародная канферэнцыя, якая разглядала пытанні аб стане захаванасці і перспектывах гістарычных месц, звязаных з вядомымі людзьмі і значнымі гістарычнымі падзеямі.

Удзельнікі канферэнцыі (а ў ліку іх былі прадстаўнікі Расіі, Украіны і Польшчы) наведалі і Флер'янова і засталіся задаволенымі, што ў гэтым глухім кутку Беларусі не толькі памятаюць, але і берагуць памяць пра славутую пісьменніцу.

Было б недаравальна, каб не сказаць яшчэ аб адной асаблівасці зберажэння памяці пра славутых людзей. Пра флер'яноўскі перыяд жыцця і творчасці Элізы Ажэшкі (а гэта толькі два гады) змешчаны вялікі змястоўны артыкул у гісторыка-дакументальнай хроніцы Ляхавіцкага раёна "Памяць", а ў Драгічынскай такой жа хроніцы — пра людвіноўскі перыяд жыцця вядомай пісьменніцы.

**XXX**

А закончыць гэтыя нататкі пра славутую пісьменніцу Элізу Ажэшку хочацца словамі паэта Апанаса Цыхуна: "Жыццё прысвяціла пакрыўджаным лёсам, і простаму люду любоў аддала". Сказана проста, трапна і справядліва.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Івацэвічы — Драгічын— Ляхавічы.**
**Фота аўтара.**



**Еўдакія Пятроўна і Леанід Фёдаравіч Прыбышы ў час адпачынку.**





**Былая Ажэшкава сталовая (злева) і канюшня ў Людвінове.**

*Белоозёрск*



В.В. Семчина в центре, слева — Р. Мусвидас, справа — С. Дутчик.

# Семчина отметила юбилей

**8 января руководитель студии эстрадной песни “Радуга” В.В. Семчина отметила свой 55-летний юбилей.**

Торжество прошло без излишней помпезности и носило, скорее, домашний характер. “Фишкой” мероприятия явились брестчане Сергей Дутчик — солист эстрадной студии ЦМТ и Руслан Мусвидас — солист Государственного оркестра эстрадной и симфонической музыки под управлением М. Финберга. К сожалению, юбилей не смогли посетить два композитора, два Сергея — Сухомлин (Минск) и Жданович (Жодино) ввиду своей занятости. Первое отделение проходило в помещении самой студии в кругу друзей, “студийцев” и просто хороших людей. Подарки, шампанское и тёплые слова разбавлялись песнями, исполняемыми традиционно “вживую” и посвящёнными гостям и юбилярше. Виновница торжества делилась воспоминаниями из своей жизни: в детстве она, оказывается, была сорви-голова, а в музучилище училась на двух отделениях — дирижёрско-хоровом и народном (баян) — и получила, соответственно, два музыкальных образования.

Вторая часть торжества — совместный концерт двух брестских друзей, солистов и танцевальной группы студии “Радуга” — была перенесена в малый зал Белоозёрского ДК и стала доступна уже для всех желающих. Весь народ, правда, в зале не уместился, поэтому у двери и задней стены наблюдалось некоторое столпотворение. Хитом вечеринки стал, пожалуй, “Venus” “Shocking Blue”, перепетый Русланом. Он даже пригласил зал потанцевать, но по причине отсутствия танцпола публика ограничилась размахиванием зажжёнными бенгальскими свечами и притопыванием.

Под занавес Руслан с Сергеем дуэтом спели песню “Дворы” в память о своём бывшем друге брестском композиторе Д. Сосунове.

# Новогодняя ёлка для детей-инвалидов

**6 января в молитвенном доме церкви “Благодать” христиан веры евангельской была проведена рождественская ёлка с участием Деда Мороза и Снегурочки для детей-инвалидов г. Белоозёрска.**



Лица детей светились радостью.

На празднике присутствовали председатель первичной организации общества инвалидов Белоозёрска А. М. Салюков и 57 ребят с родителями. Готовили праздник прихожане церкви. Началось всё с небольшого богослужения, проведённого пастором А.П. Новиком. Затем пришёл черёд инсценированного представления с участием самих ребят. Они рассказывали стихи и пели песни, посвящённые Рождеству и Новому году, а Дед Мороз вручал подарки, предоставленные гостями из Швеции. Затем был небольшой концерт группы церкви “Благодать” с репертуаром из христианских песен и сладкий стол, приготовленный прихожанами. В общем, дети хорошо отдохнули, пообщались, а некоторые и познакомились — ведь подобные встречи проходят не так часто. На прощание родители искренне благодарили прихожан и пастора церкви. Стоит отметить, что белоозёрские инвалиды и ранее получали помощь от церкви “Благодать”, в прошлом году, например, в виде колясок, костылей, продуктовых наборов.



Снегурочка раздаёт подарки.

*Кобрин*

# “BARDAK HOUSE” ПОСТАВИЛ ЗАЛ “НА УШИ”

**После того, как ведущие объявили имя очередного конкурсанта, “подогретый” и “заведённый” зал начал скандировать: “Бардак-Хауз, Бардак-Хауз!..” Публика уже явно встречалась с этим именем ранее.**



“Бардак” он и есть бардак. Особенно на сцене.

У микрофонной стойки замерла фигура в чёрном балахоне. С первыми гитарными аккордами фигура взмахом руки сбросила ткань. Шокированный зал ахнул!.. Многочисленным взорам предстал вокалист по кличке “Длинный”, облачённый в женское нижнее бельё и с безобразно размалёванной физиономией. Далее вообще стало твориться невообразимое. Под зажигательную музыку эксцентричный вокалист начал биться в конвульсиях, извиваться и корчиться, дёргать головой, выкидывать коленца и вихлять задом, совмещая всё это с пением. Зал ревел от восторга и удовольствия. Всё происходящее на сцене, без преувеличения, заслуживало только одного названия — ШОУ. Те из читателей, кто знает, что такое Элис Купер или Мэрилин Мэнсон, поймут значение данного термина. Это не плохо и не хорошо, это просто добротно сработанное шоу, в рамках довольно своеобразного стиля и имиджа группы. В конце концов вокалист рухнул на пол. Рядом незамедлительно упал и гитарист, до этого энергично прыгавший среди аппаратуры. Басист скомандовал в микрофон: “Всем спасибо, все свободны!”, — после чего сама команда не преминула воспользоваться данным указанием и покинула сцену. И если десять минут назад зал скандировал: “Бардак Хауз!”, — то теперь это переросло в рёв. **Безусловно, всё вышеописанное стало апогеем мероприятия и было, к сожалению, единственным шоу на первом полесском рок-фестивале “Крок”, проведённом 12 января в г. Кобрин.** Как ни странно, жюри присудило белоозёрской группе “Bardak House” всего лишь четвёртое место, хотя, повторюсь, по реакции публики во время их выступления, а также и по моим личным субъективным оценкам, “бардаки” претендовали никак не меньше, чем на первое.



“Анахарсис”: “Heavy” даст вам под зад!”

Вторым заметным явлением на этом празднике рока стала столинская группа “Анахарсис”. Ребята поразили и одновременно порадовали публику весьма технично исполненным и динамичным “хеви-металом” а-ля “Iron Maiden” или “Ария”. Такое, теперь уже ортодоксальное, направление, как “хеви-метал” с присущими ему продолжительными инструментальными вставками и мелодичным вокалом, в принципе, для белорусской рок-сцены явление не то что редкое, но даже, можно сказать, исключительное. “Анахарсис” образцово отыграл две свои композиции: “У пошуках нясбытных мрой” и “Адкажы, прарок”, не уложившись, правда, в отведённые 10 минут. Беснующиеся в проходах фаны вынуждены были притихнуть и дать на это время отдых своим ногам. Команда в результате заняла второе место, что, в принципе, полностью соответствовало её действительному исполнительскому уровню и положению на фестивале.

Вообще-то, фестиваль “пошёл” с самого начала. Его открыла молодая брестская группа “Skid Row”, превратив, к неудовольствию зала, свою первую песню в настройку инструментов. Зато уже на второй композиции “скиды” исправились и даже “завели” публику, которая ввиду отсутствия танцпола стала заполнять проходы у стен. Вторым в программе после “Skid Row” шло “Погружение”, представлявшее почему-то Берёзу, хотя на самом деле группа из Первомайска. Несмотря на недавно произошедшую смену бас-гитариста, “Погружение” не изменило своим принципам и выдало весьма качественный “гранж”, при этом ещё более разогрев зал. В итоге в общем зачёте эта команда оказалась на пятом месте.

Настало время сказать и об устроителях рок-фестиваля “Крок”. Ими стали кобринские молодёжная инициатива “Абракадабра” и городской ДК при поддержке центра “Вежа” (Брест), продюсерской компании “БМА” (Минск) и группы “Садъ” (Брест). Всего в фестивале приняли участие 10 групп из Брестской области и две-три сотни зрителей. Вопреки слухам, кобринское действо не почтил своим вниманием “народный” коллектив “NRM” из Минска, посчитав его, видимо, слишком “мелким” для себя.

Весь концерт прошёл на удивление гладко, без эксцессов, хотя такого рода party располагают к последним. У входа в зал скучал милиционер, всем своим видом показывающий полное безразличие к происходящему. А фанов, порывавшихся попрыгать между сценой и первым рядом кресел, сдерживал и заворачивал назад, в проход у стены, представитель “Абракадабры”.

После получасового антракта, завершившего первую часть фестиваля, жюри огласило конкурсантам свой приговор. Итак, вот как выглядит первая “тройка”:

1-е место — “Сцяна” (Брест);
2-е место — “Анахарсис” (Столин);
3-е место — “Клей” (Брест).

Приз зрительских симпатий завоевал “Баланс” (Кобрин), что было полностью прогнозируемым, учитывая, кто был хозяином фестиваля.

После вручения дипломов за публику взялись “гранды” брестского рока — группа “Садъ”, а также новоиспечённый призёр — “Сцяна”.



Зрители “отрывались” вовсю и чувствовали себя как дома.

В заключение хочется сказать: “Вопреки народной мудрости, первый блин комом не пошёл и фестиваль удался! Ждём-с следующего!” А замечания если и есть, то только одно, и то в адрес организаторов: жюри всё-таки должно состоять преимущественно из рок-“профи”.

**Полосу подготовил Николай СИНКЕВИЧ, фото автора.**

# ПЕРАЖЫТАЕ НЕ ДАЕ СПАКОЮ

**З незнаёмцам заўсёды сустракаешся з нейкай насцярожанасцю і недаверам, маўляў, хто ведае, які характар у чалавека, як ён успрыме роспыты і цікаўнасць наведвальніка да свайго жыцця, жыцця ветэрана мінулай вайны. З Васілём Данілавічам Плюшчэняй праблем не было. Мне здалося, што, як быццам бы, я сустракаюся з ім не ўпершыню. Спакойны, ветлівы і дабрадушны, ён прываблівае да сябе. Хацелася з ім гутарыць, слухаць яго, раіцца і разважаць.**


Святаслаў КАЖАДУБ.

**Васіль Данілавіч Плюшчэня.**

1.

Сам Васіль Плюшчэня родам з вёскі Гошава (Драгічынскі раён). Быў адзіным сынам у сям'і. Таму ўся ўвага была яму, Васільку. Спярша малому, а потым і рослому юнаку.

У працы на зямлі патрэбны былі мужчынскія рукі, і Васілёў бацька спадзяваўся на свайго сына, бо добры расце памочнік. Так яно і атрымалася на самой справе. Плюшчэні былі задаволены. Аднак вайна ў многім пераблытала ўсе сямейныя планы. Кожны дзень жылі ў страху і нейкім незразумелым чаканні. Аднаго суседа немцы забралі, і ён не вярнуўся дахаты; другога вывелі з хаты на падворак і расстралялі, як быццам бы за сувязь з партызанамі.

Сям'я Плюшчэняў таксама была звязана з народнымі мсціўцамі, а Васіль і зусім сур'ёзна уключыўся ў падпольную работу. Ён стаў сувязным мясцовага партызанскага атрада імя Калініна. Ведаў, што гэта вельмі небяспечна, бо мясцовыя паліцаі з усіх сіл стараліся выслужыцца перад "новымі ўладамі" і маглі пранюхаць аб сувязях з партызанамі. Так яно нечакана і здарылася.

2.

— Аднойчы ранкам у пачатку снежня 1943 года, — расказвае Васіль Данілавіч, — у хату не ўвайшлі, а ўварваліся двое ўзброеных паліцаяў. Загадалі мне апранацца і ісці з імі...

Ужо на вуліцы Васіль убачыў, што паліцаі арыштавалі яшчэ аднаго маладога вяскоўца Уладзіміра Краскоўскага. Іх, паліцаяў, было трое.

— Павялі нас на бліжэйшы хутар, — успамінае Васіль Данілавіч. — Там стаяў вялікі паўразбураны хлеў. Мы не ўяўлялі, што яны будуць з намі рабіць, — расстрэльваць ці проста папалохаюць, бо канкрэтных улікаў, што мы звязаны з партызанамі, у іх не было. Нас проста падазравалі. Гэта мы зразумелі потым...

А тым часам ужо ў хляве Васілю звязалі вяроўкай ногі і рукі, доўгі канец вяроўкі закінулі на бэльку і падцягнулі хлопца за рукі ўверх, каб не даставаў нагамі да зямлі. Гэта ўжо было страшна для Васіля. Падцягнуўшы, пачалі хваёвай палкай біць хлопца па спіне, па нагах, адначасова пытаючы: "З кім звязаны? Дзе лясныя бандыты? Не скажаш — заб'ем..."

Спярша было вельмі балюча, і хлопец ад кожнага ўдара толькі войкаў, а потым стагнаў. Калі ж страціў прытомнасць, Васіля апусцілі на ніз і заганулі за вугал хлява і кінулі на халодную зямлю. Снегу тады яшчэ не насыпала, і хутка хлопец ачомаўся. Чуў крыкі ў хляве і сцяміў, што б'юць Краскоўскага.

3.

"Трэба ратавацца, — адразу мільганула думка. — Інакш і напраўду заб'юць..."

Васіль падняў галаву. Недалёка ад хутара за метраў трыста-чатырыста пачыналася кустоўе, затым — лес. Спярша хлопец папоўз. Праз некалькі дзесяткаў метраў азірнуўся — нікога. Устаў на ногі — усё цела нібы налілося гарачынёй. Усё балела. Не мог зразумець, што болей. Але ногі трымалі Васіля. Ён ступіў некалькі крокаў і адчуў, што можа ісці. З кожным крокам хутчэй і хутчэй. А калі апынуўся ў кустоўі, упаў на зямлю, аддыхаўся, затым устаў і паспяшаўся далей.

Тутэйшы лес Васіль добра ведаў, таму схаваццa не складала цяжкасцей. Пачакаўшы да вечара, падаўся ў суседнюю вёску да сваякоў. Вяртацца дамоў стала небяспечна.

— Мне заставалася адно — ісці ў атрад, — працягваў свае ўспаміны Васіль Данілавіч, — бо ведаў, што паліцай Сцяпан Пратасевіч, які лупцаваў мяне палкай, усё роўна не дасць спакою, будзе вартаваць ля хаты. І ў снежні 1943 года я стаў партызанам...

4.

Партызанскае жыццё Васіля Плюшчэні працягвалася да ліпеня 1944 года. Чым яно запомнілася? Удзельнічаў у баі з мадзьярамі, неаднаразова хадзіў на чыгунку з падрыўнікамі. Але самае небяспечнае заданне — гэта пераход праз лінію фронту. Выбіралі самых надзейных і смелых партызан. Адтуль, з-за лініі фронту, прынасілі ўзрыўчатку, каб потым было з чым хадзіць на баявыя заданні для падрывання чыгункі, іншых варожых аб'ектаў. Небяспека партызан падсцерагала на кожным кроку. На шчасце, усё абыходзілася добра, партызаны жывыя і здаровыя вярталіся на сваю лясную базу.

Калі ў ліпені 1944 года Драгічынскі раён вызвалілі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Васіля Плюшчэню мабілізавалі ў дзеючую армію. Трэці беларускі фронт. Камандуючы генерал Чарняхоўскі.

Першае сур'ёзнае баявое хрышчэнне адбылося пад Варшавай. Тут кулямётчыка Плюшчэню параніла. Рана аказалася невялікай. Праз два тыдні Васіль зноў быў у страі. На гэты раз ён трапіў пад Кёнігсберг. Тут працягваліся ўпартыя баі. Хапала работы кулямётчыку Плюшчэні. Але яму зноў не пашанцавала, як і пад Варшавай. Пры змене пазіцыі зноў параніла. Але на гэты раз рана была даволі сур'ёзнай. Куля зачапіла пазваночнік. Спярша лячыўся ў шпіталі ў Каўнасе, а потым адправілі ў глыбокі тыл, у цяперашні Татарстан. Два месяцы выходжвалі Васіля Плюшчэню. Якраз 9 мая 1945 года, у дзень перамогі над фашыстамі, салдата Плюшчэню выпісалі са шпіталя.

5.

Думалася, што канец вайне і канец службе. Але ж былога кулямётчыка зноў прызвалі ў дзеючую армію і адправілі на Далёкі Усход, дзе яшчэ ішла вайна з японцамі.

Пра гэты перыяд ваеннага жыцця Васіль Данілавіч успамінае з сумам і горыччу:

— Ішлі пешака ў Манчжурыю, праз пустыню, стэп. Многа нашых загінула. Ад стамлення, без вады і ежы. Пераход быў завельмі цяжкім. Калі дабраліся да месца прызначэння, вайна з Японіяй закончылася, і нас павярнулі назад. Толькі ў снежні дайшлі да Манголіі. Там пасадзілі нас у вагоны і завезлі ў Новасібірск, адтуль — у Барнаул. Закончыў службу ў 1947 годзе, вясной. У красавіку быў ужо дома...

Васілю Данілавічу нядаўна споўнілася 80. Гадоў, па людскіх мерках, шмат. Але, прызнацца, не хапае здароўя. Тыя раненні, што атрымаў у час вайны, даюць знаць пра сябе. Вельмі баляць ногі, здараецца, што цяжка перайсці праз пакой. Патрэбна інвалідская каляска ці машына, але ж хто паклапоціцца пра былога ветэрана. Сам ён не дойдзе і не даедзе да райцэнтра. Так і жыве ветэран са сваімі балячкамі і клопатамі.

Калі б не Настасся Пятроўна, верная Васілёва спадарожніца, невядома, як бы давялося пакутаваць аднаму ў пустой хаце. Дзеці (а іх трое — дзве дачкі і сын) даўно ўжо выляцелі з бацькоўскага гнязда і жывуць асобна. Сын Леанід далёка ад дому, а дочкі тут, у раёне.

6.

Пра свае баявыя ўзнагароды Васіль Данілавіч успамінае не часта. Хіба што на Дзень Перамогі, раз у год, калі клічуць на сход ці дасылаюць віншаванні са святам. Асабліва ганарыцца медалём "За адвагу", які ўручылі яму пасля вайны — у 1985 годзе.

А летась нечакана для самога ветэрана прадстаўнікі з райваенкамата і сельсавета завіталі ў хату Плюшчэні. Яму ўручылі медаль "За баявыя заслугі". Узнагарода, можна сказаць, знайшла свайго героя. Гэта ў той зімовы студзеньскі дзень у баі пад Кенігсбергам яго раніла, тады ж і ўзнагародзілі, але салдата адправілі ў шпіталь, і ён медаль не атрымаў. І вось праз 55 гадоў узнагароду ўручылі былому кулямётчыку.

...Развітваўся я з Васілём Данілавічам як ужо з добрым знаёмым. І думалася: чалавек ваяваў; страціў частку свайго здароўя, шмат папрацаваў і пасля вайны. Спярша ў калгасе, а потым у міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі, адтуль пайшоў на пенсію, але яшчэ гадоў дзесяць там жа працягваў працу. Зараз Васіль Данілавіч інвалід другой групы, зусім хворы чалавек, сядзіць дома, але не здаецца, думае пра жыццё, пра сваіх дзяцей і ўнукаў. А вайна, між іншым, прыходзіць на памяць у апошнія гады ўсё часцей, бо даюць знаць пра сябе ваенныя раны. Перажытае не дае спакою ветэрану.

Святаслаў КАЖАДУБ.
в. Гошава Драгічынскага раёна.

НА ХВАЛІ СУСВЕТУ

## Пакистан разрешил американцам воевать на своей территории

**Американские войска будут преследовать лидеров "Аль-Каеды" и в Пакистане, так как сведения о том, что Усама бен Ладен и его ближайшие сподвижники пересекли границу Афганистана в этом направлении, получают все новые подтверждения.**

Командующий операцией генерал Томми Фрэнкс заявил, что Пакистан дал разрешение подразделениям армии США войти на территорию государства и проводить специальные операции по уничтожению террористов и остатков войск талибов.

Подобное соглашение является существенной уступкой вооруженных сил Пакистана, командование которых до недавнего времени утверждало, что пограничная полоса протяженностью 1500 миль находится под полным контролем, и было категорически против каких-либо совместных действий с вооруженными силами других государств.

## ЦРУ спалохалася кітайскіх ракет

**Нядаўна апублікавана справаздача ЦРУ, у якой паведамляецца, што Кітай у бліжэйшыя гады ў чатыры разы павялічыць колькасць ядзерных ракет далёкага дзеяння, нацэленых на ЗША.**

Як указваецца ў справаздачы ЦРУ, Кітай плануе давесці колькасць нацэленых на ЗША міжкантынентальных балістычных ракет з ядзернымі зарадамі да 100. Амерыканская разведка паведаміла, што зараз у Кітаі вядзецца распрацоўка трох новых ракетных сістэм. Па прагнозах экспертаў, гэтыя даследаванні могуць завяршыцца поспехам да 2010 года. Такое значнае ўзмацненне ядзернага патэнцыялу неабходна Кітаю для пераадолення амерыканскай сістэмы процiракетнай абароны. Спецыялісты сцвярджаюць, што вельмі вялікая верагоднасць таго, што амерыканскай ПРА ўдасца збіць усе 20 міжкантынентальных ракет, якія стаяць сёння на ўзбраенні арміі Кітая, тады як збіць 80 ракет будзе ўжо амаль немагчыма.

Такім чынам, Кітай набудзе магчымасць аказваць на ўрад ЗША больш ціск, што важна, асабліва ў сувязі з рознагалоссямі адносна статусу Тайваня.

Што датычыцца расійскага ядзернага патэнцыялу, то, як гаворыцца ў дакладзе, ён будзе працягваць скарачацца. Аднак, па словах супрацоўнікаў амерыканскіх спецслужбаў, Расія і ў будучыні будзе мець больш чым дастатковую колькасць ракет, каб нанесці ўдар па Злучаных Штатах.

## Будда покинул Тибет

**Духовный лидер Тибета Далай Лама XIV Тенцзин Гятцо заявил, что в своей следующей реинкарнации он не будет рождаться в Тибете или на другой территории, подконтрольной Китаю.**


**Тенцзин Гятцо.**

Он сделал такое заявление в Сарнате на севере Индии. По словам Далай Ламы, если в момент его смерти Тибет не будет свободным, он реинкарнируется в любой другой стране.

По словам религиозных деятелей, это заявление делает невозможным влияние Китая на возможный выбор следующего Далай Ламы, а также серьезно повысит непопулярность этой страны среди жителей Тибета и буддистов по всему миру. 66-летний Далай Лама, которого буддисты считают воплощением Будды на Земле, скрывается в Индии с марта 1959 года.

## Лучший способ похудеть



**Ученые наконец-то нашли лучший способ сбросить лишний вес. Проведенное медиками из Барселонского университета (Испания) исследование показало, ни один вид спорта не является однозначно безвредным для хрупкого женского организма.**

Вывод же ученых был такой: женщинам (особенно тем, кому за 30) следует прекратить занятия в залах и на тренажерах и более интенсивно и регулярно заниматься сексом. При этом занятия любовью помогут не только сбросить лишний вес, но и уменьшить риск возникновения сердечно-сосудистых заболеваний. Что бы там ни говорили, а, по статистике, проблема лишнего веса волнует каждую вторую женщину. И это несмотря на заявления многих мужчин о том, что они предпочитают полненьких дам.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

# Сердечно поздравляем



*Поздравляем с днем рождения нашего лучшего друга Николая ХОМИЧА из д. Могилицы Ивацевичского р-на. Желаем крепкого здоровья, счастья, большой любви!*

*С уважением — Александра, Марина, Юлия.*



*От всей души горячо и сердечно поздравляем с днем рождения Галину Ивановну МИСКЕВИЧ из г. Ивацевичи. Желаем крепкого здоровья, счастья, удачи, благополучия и всего самого наилучшего.*

*В этот день позабудь*
*о невзгодах своих.*
*Загорись ты в улыбке*
*счастливой,*
*И такой оставайся*
*на долгую жизнь —*
*Жизнерадостной,*
*доброй и милой.*

*С уважением — Алла Кононович.*



*Дорогого и любимого мужа Сергея Владимировича МЕЛЕХА из г. Белоозерск поздравляю с днем рождения. Желаю здоровья, счастья, большой любви и всего самого наилучшего.*

*С любовью — жена Людмила.*



*От всей души поздравляем с днем рождения дорогую подругу Антонину Александровну САВЧУК из д. Житлин Ивацевичского р-на. Желаем тебе крепкого здоровья, верной любви, быть всегда веселой и красивой. Пусть тебе сопутствуют в жизни — долголетие, в дружбе — верность, в любви — вечность.*

*Пусть жизнь*
*всегда течет рекою*
*Среди цветущих берегов,*
*И пусть всегда живут с тобою*
*Надежда, Вера и Любовь!*

*С уважением и огромной любовью — семья Клютко.*



*Сардэчна віншуем з 45-годдзем з дня нараджэння дарагую і любімую мамачку, жонку і нявестку Зінаіду Рыгораўну САФОНАВУ з в. Мілейкі Івацэвіцкага р-на. Жадаем табе моцнага здароўя, шчасця, душэўнай маладосці.*

*Мамочка наша родная,*
*Эти нежные строки тебе —*
*Самой милой и самой красивой,*
*Самой доброй на этой земле.*
*Пусть печали в твой дом*
*не заходят,*
*Пусть болезни*
*пройдут стороной,*
*Мы весь мир*
*поместили б в ладони*
*И тебе подарили б одной.*
*Но и этого было бы мало,*
*Чтоб воздать за твою доброту,*
*Мы всю жизнь,*
*наша милая мама,*
*Пред тобой в неоплатном долгу.*
*Храни господь тебя, родная,*
*И продлевай судьбы твоей года,*
*Чтобы тепло*
*родительского дома*
*Нас согревало долгие года.*

*З любоўю і павагай — муж, свякроў і дзеці.*



*Дорогих и любимых Василия Николаевича и Валентину Михайловну ЛИШКО из г. Ивацевичи поздравляем с 18-летием со дня свадьбы.*

*Желаем счастья в этот день,*
*Тепла от тех, кто будет рядом,*
*Улыбки светлой на лице*
*И солнечных лучей в награду.*
*Пусть этот праздник светлым*
*будет,*
*Пусть принесёт он радость*
*и успех,*
*И сколько б счастья не желали*
*люди,*
*Его же мы желаем больше всех!*

*С любовью — дочери Светлана и Надежда.*

*Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения дорогого отца и дедушку Михаила Ивановича Соболь из д. Квасевичи Ивацевичского р-на. В этот светлый и радостный день прими самые искренние пожелания добра, здоровья, счастья и благополучия.*

*С уважением и любовью — сын, невестка, внуки Марина и Алёша.*



*От всей души поздравляем Василия Ивановича БАЦКАЛЕВИЧА из г. Ивацевичи с днём рождения. Не трать свои нервы напрасно, здоровье не купишь нигде. Пусть жизнь твоя будет прекрасна! Мы счастья желаем тебе.*

*Друзья.*



*Поздравляю с Новым годом своих любимых маму, папу и сестер из д. Омельная Ивацевичского р-на. Желаю в этом году счастья, здоровья, благополучия, успехов во всём, взаимопонимания.*

*С любовью — ваша дочь и сестра Светлана.*



*От всей души поздравляю самую лучшую подругу Елену Николаевну АБРАМЧУК из д. Краи Ивацевичского р-на с днём рождения. Желаю крепкого здоровья, радости, любви. Пусть хранит тебя Господь!*

*С уважением — подруга Елена.*



*Поздравляем с 16-летием дорогую и любимую доченьку и сестричку Дарью РУДЬМАН из г. Ивацевичи.*

*Пусть в твои дороги не войдут*
*тревоги,*
*И печаль не встанет на твоём*
*пути.*
*Пусть любовь и счастье,*
*гордость и удача*
*Будут в твоей жизни рядышком*
*идти.*

*Мама, папа, сестричка Ирина.*



*Поздравляем дорогого и любимого Сергея Степановича МЯЛИКА из г. п. Телеханы с днём рождения. Желаем крепкого здоровья, семейного благополучия, успехов во всех твоих начинаниях и счастья на долгие годы.*

*С любовью — Тоня, дочери Юля, Наташа и тёща.*



*От всей души поздравляем с днём рождения дорогого сыночка и братика Дмитрия Вячеславовича МИХНЮКА из г. Белоозёрск. Желаем крепкого здоровья, успехов в учёбе.*

*С любовью — мама, папа и сестра Людмила.*



*Любимую доченьку Ирину Викторовну СТЕПАНОВИЧ из г. Береза поздравляем с днём рождения. Пусть жизнь цветет волшебным садом, как ручеёк, пусть льётся звонкий смех, и пусть всегда и всюду будут рядом здоровье, счастье и успех.*

*С любовью — мама и папа.*



*От всей души поздравляем с 18-летием дорогую, любимую доченьку и сестричку Наталью ЕРМОЛОВИЧ из д. Краглевичи Ивацевичского р-на. Желаем крепкого здоровья, хорошего настроения, огромной любви, быть всегда счастливой, доброй, славной, милой.*

*С любовью — папа, мама, Нина, Снежана и Виктор.*

## ПРОДАЮТСЯ

### РАЗНОЕ

☞ Перспективные щенки ротвейлера. Тел. в г. Береза (8-243) 58-6-27.

☞ Полубрус 160 мм — дл. 6,5м — 57 шт.; полубрус 80 мм — дл. — 4,5 м — 14 шт.; стропила 80х120 мм — дл. 6,5 — 42 шт.; полубрус 160 мм — дл. 9 м. — 25 шт.; балки 160х160 мм — дл. 10 м — 10 шт.; доска 40 мм — дл. 4,5 м — 3 м³; доска 25 мм — дл. 6,5 м.; окна 1,5х1,5 — 5шт.+стекло; двери — 6 шт. Обращаться по адресу: Ивацевичский р-н, д. Руда, д. 16, или по тел. 52-5-32 (после 18.00).

☞ Телевизор, видеомагнитофон, р/телефон, пылесос — новые и б/у. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-43-82 (вечером).

☞ Спальня "Щара", новая, в упаковке; тумба ТВ. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-68-25.

☞ Обрезной лес на дом. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-31-43 или в Ивацевичском р-не (8-245) 41-9-98 (звонить вечером).

☞ Магнитофон бабинный "Соната", б/у, хорошее состояние, 20 у. е.; магнитофон "Маяк-233" стерео, кассетный, стационарный, без радио. Тел. в г. Береза (8-243) 4-62-70 (после 18.00).

☞ Видеоплейер пишущий "Самсунг", новый, в упаковке, гарантия 1 год, цена 85 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-64-20.

☞ Игровая приставка "Сони", диски, руль с педалями, видеоадаптер. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-53-36.

☞ Радиотелефон "Panasonic", 150 м радиус действия, б\у полгода. Тел. в г. Ивацевичи (3-245) 2-69-83.

☞ Стиральная машина-автомат, б/у, из Германии; электрический синтезатор-орган. Недорого. Тел. в г. Белоозёрск (8-243) 29-5-78.

☞ Лодка надувная, новая, "Омега-21", дно надувное, 2-местная. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-34-79.

☞ Компьютер "Pentium"+ лазерный принтер + комплектующие к компьютеру, всё б/у, в отличном состоянии. Тел. в г. Береза (8-243) 2-22-97 (с 8.00 до 17.00) в рабочие дни.

☞ Щенки породы "фила бразилейро" (бразильский мастис) с родословной. Эта порода супер охрана-телохранитель. Красивый, мощный пёс тигрового окраса. Обращаться по адресу: г. Ивацевичи, ул. Механизаторов, д. 18. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-73-69.

☞ СВЧ-печь, LG, 19 л, новая, гарантия 1 год, 85 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-62-82.

### НЕДВИЖИМОСТЬ

☞ 2-комнатная квартира в г. Ляховичи, 2 этаж, общ. пл. — 60 м², жилая — 31,8 м². Есть балкон, кладовая, гараж. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-26-46, в любое время.

☞ Недостроенный дом в г. Ивацевичи, пер. Вишневый-2. Недорого. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-41-12.

☞ Дом в д. Калазубы Пружанского р-на, имеются хозпостройки. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-80-62 (после 17.00).

☞ 1-комнатная приватизированная квартира, общая пл. 40,6 м², жилая — 20,8 м², есть телефон, подвал, застекленный балкон, 1 этаж. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-23-42.

☞ Сруб и участок под строительство. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 68-2-90.

☞ Гараж в г. Ивацевичи по ул. Горького, есть подвал, в первом ряду. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-33-66 или 2-83-18 (спросить Виталия).

☞ Большой гараж в районе пивбара, без подвала. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-37 (до 9.00 или после 18.00).

☞ 3-комнатная квартира в 4-квартирном двухэтажном доме в г. п. Телеханы. Есть все хозпостройки, рядом детсад и магазин. Цена 4.000 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-12-68 (после 18.00).

☞ Дом в д. Алексейки Ивацевичского р-на, 22 сотки, хозпостройки, в перспективе — газ, телефон. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-69-45.

☞ Дом на ст. Бронная-Гора Березовского р-на, есть хозпостройки, колодец, 40 соток, большой сад, летняя кухня. Тел. в г. Береза (8-243) 2-51-41 (вечером).

☞ Дом в д. Сторожовщина Ивацевичского р-на, имеются хозпостройки, сад, огород. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-62-04.

☞ Жилой дом в центре г. Малорита. Тел. в г. Береза (8-243) 29-4-30, 66-2-36.

☞ 3-комнатная квартира с мебелью в г. Пружаны. Тел в г. Пружаны (8-232) 2-15-24.

### АВТО-МОТО, ЗАПЧАСТИ

☞ "Фольксваген-Гольф 2", 1987 г. в., 1,6Д, по запчастям. Обращаться по адресу: г. Ивацевичи, ул. Коммунистическая, д. 12, кв. 4 (утром до 10.00, вечером после 19.00), спросить Андрея.

☞ "Опель-Кадетт", 1985 г. в., 3-дверный, 1,2S, по запчастям. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 33-7-72

☞ Трактор самодельный с прицепом, в хорошем состоянии, 500 у. е. Тел. в г. Волковыск (8-01512) 2-28-91.

☞ "Мерседес-123", 300Д, универсал, работает подкачка; "Фольксваген-Джета", 1991 г. в., 1,6ТД, 24.12.2001 из ФРГ, цвет бирюзовый, г/у руля, тахометр, люк, фаркоп, кор. фар, магнитола. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-43-82 (вечером).

☞ Мотоцикл "ИЖ-Планета-5", в отличном состоянии, комплектация "люкс", 1989 г. в., пробег 17200 км + запчасти. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-70.

☞ Трактор Т-25, Т-16, 1991—92 г. в., в хорошем состоянии. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-37 (до 9.00 или после 18.00).

☞ Коробка "ЗИЛ-130". Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 33-2-77.

☞ "Форд-Сиерра", 1988 г. в., 2,0, газ-бензин, 1500 у. е. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 47-4-46, 2-53-95.

☞ "Мерседес 123" 300Д, 1400 у. е., состояние рабочее. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 47-4-46.

☞ "Опель-Омега". 1987 г. в., 2,3Д, фаркоп, гидроусилитель руля, центр. замок, цвет металлик. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-46-74.

☞ "Ауди-80", 1988 г. в., бензин, ABC, люк, центр. замок, сигнализация, гидроусилитель, 2500 у. е. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-68-81.

☞ Документы на "Мерседес 123", 300Д. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-32-11.

☞ "Фольксваген-Пассат", 1988 г. в., 1,8 бензин; "Опель-Кадет", 1987 г. в., 1,6 дизель, 5-дверный; "Ауди-100", 1987 г. в., 1,8 бензин, не растаможен. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-70-78.

☞ "УАЗ-452" АЗ, новый, тип скорой помощи, пробег 500 км. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 32-3-00.

☞ "Фольксваген-Пассат", универсал, 1986 г. в., по запчастям. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-45-96.

☞ Запчасти к "Рено-9": радиатор, генератор, капот, двери, печка в сборе, шрусы, багажник, задн. стекло, задн. фонари, бамперы. Тел. в г. Пружаны (8-232) 3-51-52.

☞ "Форд-Сиерра", 1986 г. в., 2,3Д, 5-дверный, не растаможен. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-58-72.

☞ "Фольксваген-Пассат", 1990 г. в., 1,6 ТД, универсал. Тел. в г. Береза (8-243) 4-64-92.

☞ "Форд-Сиерра", 2,3Д, 1983 г. в., на ходу, техосмотр 2003 г., 650 у. е, Тел. в г. Коссово (8-245) 32-1-66 (после 19.00).

☞ "Ауди-80", бочка, цвет черный, 1987 г. в.. Тел.в г. Береза (8-243) 4-61-59.

☞ "ЗИЛ-130Д". Тел. в г. Береза (8-243) 4-61-06, (8-01591) 26-1-86.

## КУПЛЮ

☞ "ВАЗ-2106" или "ВАЗ-2103". Тел. в г. Береза (8-243) 4-50-44.

☞ Чеки "Жильё". Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-52-99 или 2-50-85.

☞ Швейную машину "Зингер". Тел. 8-029-614-11-82.

☞ "ВАЗ-01, 02, 03", в хорошем состоянии, до 250 у. е.. Тел. в г. Белоозерск (8-243) 29-3-47.

☞ Музыкальные струнные инструменты, б/у, недорого. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-52-02 или 2-83-20.

☞ Шкафчик под мойку, можно б/у. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-65-23.

☞ Дрель (перфоратор) "Ferm", в нерабочем состоянии, 650WT (2500 об.). Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-69-83.

☞ Скобогвоздезабиватель для ткани и другие остатки мебельного пр-ва, или обменяю на скобозабиватель для сборки каркасов. Тел. в г. Минске 017-261-32-48.

☞ 2-комнатную или 3-комнатную квартиру в г. Ивацевичи. Обращаться по адресу: г. Ивацевичи, ул. Куйбышева, д. 13.

☞ "Москвич-2140, 412", на ходу. Тел. в Ивацевичском р-не (8-245) 39-3-49.

☞ "МАЗ". Тел. в г. Минске (8-017) 289-83-23, 289-84-21.

## СНИМУ

☞ Квартиру в г. Береза, желательно с телефоном и мебелью. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-45-56 (после 18.00).

## УСЛУГИ

☞ Грузоперевозки от 1 до 20 т: РБ, СНГ, Украина. Форма оплаты любая. Тел. в г. Ивацевичи (8-245) 2-47-22.

